# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ
Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
*The Voice of the Church,* Published by the Council of the
Byelorussian Autocephalous Orthodox Church
401 Atlantic Ave., Brooklyn, New York, N.Y. 11217, U.S.A. Price $3.00

**No.60** **ВЯЛІКДЗЕНЬ — 1987** **Год 32**

## Вялікодняе Архіпастырскае Пасланьне

*Пачэснаму Сьвятарству
і ўсім Вернікам
Беларускае
Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

Хрыстос Уваскрос! Запраўды Ўваскрос!

БЫЎ час, калі чалавек насалоджваўся поўным мірам і спакоем. Але гэты час быў нядоўгі. Тады, запраўды, ня было ні вонкавых, ні ўнутраных прычынаў, якія парушалі-б супакой чалавека. Ён жыў у міры з Богам, з бліжнімі і з сабою. Але грэх, што зьявіўся, разбурыў усе гэтыя суадносіны. Адданы грэху чалавек зрабіўся ворагам Бога, бліжняга й сябе самога.

Да Ўваскрасеньня Хрыстовага ня было міру ў чалавека з Богам. Чалавек, як толькі адхіліўся ад Бога й парушыў Ягоную запаведзь, дык пачаў варагаваць супраць Яго. Усе грэшныя дзеяньні творац варожасьць да Бога. Імі будуецца не Царства Божае, але царства сатаны. Варожасьць гэтая прадаўжалася да самога прыходу Збавіцеля. Дзеля прымірэньня й разбурэеньня гэтае варожасьці трэба было загладзіць і ачысьціць грэх праўдай. Ісус Хрыстос стаў нашым апраўданьнем. Ён Сваім вучэньем і жыцьцём паказаў шлях да збаўленьня, а Сваёй крыжовай сьмерцю ня толькі скасаваў грэх, але разбурыў самую ўладу віноўніка ўсякага зла. Вялікай была ўлада дыявала над народам чалавечым. Ён трымаў у ланцугох сваіх ня

толькі жывых, але й памёршых. Але Госпад вызваліў усіх ад дыявала нятолькі на зямлі, але і ў пекле. Да Ўваскрасеньня Ісуса Хрыста, усё пекла было напоўнена памёршымі. Збавіцель, калі ляжаў у магіле, зышоў душою сваёю ў пекла й вывеў адтуль усіх, чакаўшых Яго, пачынаючы з першага чалавека. Такім чынам, праз Уваскрасеньне Хрыстовае прыміраныя з Богам не адны жывыя, аде й памёршыя ў грахох. Ён прымірыў нас з Богам і паказаў у Ім крыніцу нашага суцяшэньня, радасьці й шчасьця. Радуюцца й сьвяткуюць цяпер і людзі і Ангелы і адышоўшыя ад нас у сьвет замагільны. Для ўсіх дараваны супакой і адчынены на небе рай. Радасьць гэтую, якой чакалі ўсе, абвяшчаем мы у ўзаемных нашых вітаньнях і пацалунках.

Сьпярша й мір і радасьць былі аб'яўленыя ўваскросшым Збавіцелем апосталам, а праз іх ужо распаўсюджаныя па ўсім сьвеце. Праз апосталаў абвешчаны мір і кожнаму чалавеку. Да зьяўленьня на зямлі грэху, у чалавека ня было ўнутранае нязгоды. Сілы душы нашае не варагавалі адна супраць другое. Але з зьяўленьнем грэху зьявілася нязгода, і былы датуль унутры нас мір быў парушаны. Цела стала варагаваць супраць духа, пачуцьці нашыя перасталі пакарацца ня толькі ўнутранаму, але й вонкаваму закону. Каб грэх не перашкаджаў даравaнаму міру, Збавіцель адразу пасьля ўваскрасеньеня надзяліў апосталаў Сваіх уладай дароўваць грахі й заспакойваць сумленьне. З надзеяй на гэтае дараваньне, мы каемся й мірымся ня толькі з Богам, але з сабою.

Найбольш закаранелы грэшнік адчувае палягчэньне й заспакаеньне ў сваім сумленьні, калі пакаецца ў грахох. Да Ўваскрасеньня Хрыстовага людзі не маглі карыстацца ўнутраным мірам і не былі вольнымі ад страху сьмерці. Але Збавіцель расьсеяў усякі страх, патаптаўшы саму сьмерць Сваім Уваскрасеньнем на трэйці дзень.

Раней сьмерць была страшною тым, што ня ведалі іншага жыцьця. А цяпер выявілася, што сьмерць ня ёсьць зьнішчэньне й канец быцьця, а толькі пераход ад грэшнага зямнога жыцьця да радаснага жыцьця нябеснага.

Мы са сьмерцю нічога не трацім, але многа набываем, менавіта: нятленьне, вечнасьць і радасьць. Ня сташнае нам цяпер самое пекла. Яно скасаванае й скончанае зышоўшым у яго Збавіцелем.

Кожны можа ўнікнуць пекла, хто захоча йсьці ўсьлед за ўваскросшым Госпадам. Ідзі, кожны веруючы, у адчыненыя дзьверы раю й ня бойся духаў злосьці. Яны зьвязаныя й ня могуць пашкодзіць табе, калі сам будзеш бараніцца ад іх імям Крыжа і Ўваскрасеньня Хрыстовага.

Сьвяткуючы сёньня прымірэньне з Богам і перамогу над



нашымі спрадвечнымі ворагамі, падзякуем уваскросшаму дзеля нас Госпаду й выкарыстаем усе сродкі дараваныя нам праз Яго, каб не дарэмным было для нас Уваскрасеньне Хрыстовае й каб пасьля дараванае перамогі не застацца нам на зямлі ў ліку пераможаных.

У гэтым часе мы не павінны забываць і абавязкаў нашых перад нашымі роднымі і ўсімі суродзічамі на Бацькаўшчыне. У нашых шчырых малітвах да Бога, мы павінны прасіць лепшае долі нашаму Беларускаму Народу, ды каб хутчэй прыйшоў канец усім зьнявагам, зьдзекам, пакутам, нішчэньню нашае мовы і ўсяе культуры духовае, каб хутчэй запанаваў мір і праўда Божая ў кожным кутку нашае Бацькаўшчыны.

Вітаю ўсіх Вас у Вольным Сьвеце й на Бацькаўшчыне з нашым найвялікшым Праваслаўным Сьвятам — Уваскрасеньнем Хрыстовым — Вялікаднем!

*Лета Божага 1987*
*месяца красавіка*

*†Мітрапаліт Ізяслаў*
*Першагерарх Б.А.П.Ц.*

**З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ**
**УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА**
***вітаем***
**Высокапрэасьвяшчэннага Мітрапаліта ІЗЯСЛАВА**
Дастойнае Сьвятарства і ўвесь клір царкоўны,
Парахвіяльныя Рады, Брацтвы і Сястрыцтвы,
ды ўсіх вернікаў
Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
і ўвесь Беларускі Народ на Радзіме і на чужыне.
***ХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!***
Кансысторыя і Рада Б.А.П.Ц.

## Радасьць Уваскрасеньня Хрыстовага

Як часта не паўтараем, як часта ня чуем гэтага сьвятога прывітаньня — яно ніколі ня забываецца, а заўсёды аднолькава радаснае, пацяшальнае, пажаданае. Чаму-ж гэта?

А вось чаму: Калі Хрыстос сапраўды сілаю Бажаства Свайго ўваскрос з мёртвых, гэта значыць, што Ён ёсьць сапраўдны Сын Божы, Госпад і Бог наш, — сапраўдны Спасіцель і Выкупіцель наш. Таму мы павінны вераваць у Яго, ўсе нашыя надзеі пакладаць на Яго й любіць ад усяго сэрца.

Калі Хрыстос сапраўды ўваскрос, гэта абазначае сапраўднасьць і сьвятасьць праваслаўнай нашай хрысьціянскай веры, якое Ён, Кіраўнік і Тварэц, навучаў нас праз апосталаў і іх пераймальнікаў. Дзеля гэтага і ўсе словы Ягоныя, усё Яго вучэньне, і ўсе запаветы Ягоныя таксама сапраўдныя, нязьменныя. Так, што хутчэй пройдуць неба й зямля, а ніводная рыса не праміне з закону, пакуль ня зьдзейсьніцца ўсё. Нам застаецца толькі бяз усякага сумневу заўсёды прабываць у гэтай сьвятой веры, выконваць запаветы Хрыстовыя і такім чынам надзейна верыць у ўсё спасеньне.

Калі Хрыстос сапраўды Ўваскрос і, уваскросшы з мёртвых, ужо ня ўмірае, і сьмерць ужо ня мае над Ім улады (Рым. 6,9), гэта абазначае, сапраўднасьць і нашу, пасьля нашага ўваскрасеньня, несьмяротнае вечнае жыцьцё, Ім абяцанае, і выяўленае Ім пасьля жыцьцяноснага Ягонага Ўваскрасеньня. Як пакараньне за грэх — сьмерць, так дар Божы — жыцьцё вечнае ў Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым (Рым. 6,23).

Вось дарагія браты й сёстры, колькі важных, самых прыемных, самых пацяшальных праўдаў зьмяшчаецца ў гэтых словах: Хрыстос Уваскрос — сапраўды Ўваскрос! Дзеля гэтага мы часта й ахвотна паўтараем іх і сёньня. Таму й Самае сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага ёсьць сьвята сьвятаў, з урачыстасьцяў урачыстасьць і што сьвятлей і ўрачысьцей, вясялей яго няма ў нас на зямлі ніякага сьвята і на небе, У Бога і ангелаў, Уваскрасеньне Хрыстовае таксама найбольшае сьвята. А калі гэта сьвята такое важнае, сьвятое й ўрачыстае, дык падумайце, ці будзе нам на месцы зьневажаць яго нам, хрысьціянам якімі небудзь нячыстымі грэшнымі дзеяньнямі?

---

# Праваслаўная Царква

ПРАВАСЛАЎЕ ёсьць Хрыстовая Царква на зямлі. Царква Хрыстовая ёсьць не ўстанова, але новае жыцьцё з Хрыстом і ў Хрысьце, натхнёнае Сьвятым Духам. Хрыстос, Сын Божы, прыйшоўшы на зямлю й стаўшы чалавекам, злучыў сваё Боскае жыцьцё з чалавечым жыцьцём. Бог зрабіўся чалавекам і сваё чалавечае жыцьцё падарыў братом сваім „веруючым у Імя Яго". Ісус жыў сярод людзей і памёр крыжовааю сьмерцю, але ўваскрос і ўзнёсься на неба. І ўзнёсшыся на неба, Ён не адлучыўся ад Свайго чалавецтва але прабывае з ім заўсёды, цяпер, усячасна й павек вякоў. Сьвятло Ўваскрасеньня Хрыстовага асьвячае Царкву, і радасьць Уваскрасеньня, перамога над сьмерцю, Яе выпаўняе. Госпад Уваскросшы жыве з намі, і нашае жыцьцё ў Царкве ёсьць скарбніца жыцьця ў Хрысьце. „Хрысьціяне" таму й носяць гэтае імя, бо яны ёсьць



Хрыстовы, яны ў Хрысьце, і Хрыстос у іх. Прыняцьце Богам нашага цела ня ёсьць толькі ідэя або вучэньне, але перш за ўсё здарэньне, зьдзейсьненае аднойчы ў часе, але маючае ўсю сілу вечнасьці. Яно ёсьць трываючае спалучэньне непадзельнае, хоць і нязьлітае, абедзьвюх істотаў, — боскае й чалавечае, і ёсьць Царква. Царква ёсьць чалавецтва Хрыстовае, Хрыстос у чалавецтве Сваім. Так як Госпад ня проста прыблізіўся да чалавека, але атаясаміўся з ім, сам стаўся чалавекам, таму Царква ёсьць Цела Хрыстовае, як адзінства жыцьця ў Ім, Яму паслушная й падуладная. Цела ня мае жыцьця асабістага, але ёсьць натхнянае Ягоным Духам і разам з тым яно ад Яго розьніцца: згоднае з Ім і самабытнае ў адзін і той час, і тут адзінства, неабыякавае, але двуадзінства.

Такая самая думка выяўляецца й тады, калі Царква называецца Маладой Хрыстовай, або жонкай Логаса-Слова: адносіны паміж жаніхом і маладою, мужам і жонкай, узяты ў іх агранічнай паўнаце, ёсьць закончанае адзінства жыцьця пры захаваньні ўсяе рэальнасьці іх розьніцы: двуадзінства неразрывальнае і няпаглынальнае адзінствам. Царква, як Цела Хрыстовае, ня ёсьць Хрыстос, Богачалавек, бо Яна ёсьць чалавецтва Ягонае, але Яна ёсьць жыцьцё ў Хрысьце й з Хрыстом, жыцьцё Хрыста ў нас: „ужо ня я жыву, але жыве ўва мне Хрыстос" (Гал. 2,20).

Але Хрыстос ёсьць ня толькі Боскі Твар, як такі, бо Яго асабістае жыцьцё неадлучна ад жыцьця Сьвятое Тройцы, Ён ёсьць „адзін ад Сьвятое Тройцы". Яго жыцьцё адзінае й аднаістотнае з Богам Айцом і Сьв. Духам. Дзеля гэтага Царква, як жыцьцё ў Хрысьце, ёсьць жыцьцё ў Сьв. Тройцы. Цела Хрыстовае, жыве жыцьцём у Хрысьце, тым самым жыве і жыцьцём у Сьв. Тройцы, і мае на сабе пячатку Яе: таму й нараджэньне ў Царкву, хрышчэньне „у імя Хрыстовае", выконваецца „у імя Айца й Сына й Сьвятога Духа".

Хрыстос ёсьць Сын, адкрываючы Айца й выконваючы волю Ягоную. У Ім мы пазнаём нятолькі Яго, але й Айца, і ў Ім мы становімся, разам з Ім, сынамі Айца, прымаем Богасыноўства, усынаўляемся Айцу, да Каторага і ўсклікаем: „Войча наш". Будучы Целам Хрыстовым, мы прымаем на сябе адсьвет Айцоўскай гіпастасі, разам і адначасна з Сыноўскай. Але й нятолькі гэта, а ў сілу Іх узаемных суадносін, Іх двуадзінства: „Няхай будуць усе адно : як Ты, Айцец, ува Мне, і Я ў Табе" (Ян 17,21). Гэтае двуадзінства ёсьць сіла Любові, зьвязваючая Сьвятую Тройцу: Бог ёсьць любоў. Царква, Цела Хрыстовае, становіцца зьвязкам гэтай траечнай Божай любові: „і мы прыйдзем да Яго й зробім сялібу ў Яго" (Ян 14,23).

Царква як Цела Хрыстовае, жывучы жыцьцём Хрыстовым, ёсьць тым самым месцам дзеяньня і прысутнасьці Сьвятога Духа. Больш таго, Царква ёсьць жыцьцё Духам Сьвятым у сілу таго, што яна ёсьць

Цела Хрыстовае, таму, што ў Сьв. Тройцы Сын ня мае асобнага жыцьця, але атрымоўвае яго ад Айца, і гэта ёсьць Сьв. Дух, жыцьцятворны, спрадвечна на Ім спачываючы. На гэтай аснове Царкву можна разглядаць проста як дабрадзейнае жыцьцё ў Сьв. Духу, або іначай, Яна ёсьць Сьв. Дух жывучы ў чалавецтве. Царква ў сваёй існасьці ёсьць богачалавечае адзінства, належыць да боскага сьвету, Яна ёсьць у Богу, а дзеля гэтага існуе на сьвеце ў людзкой гісторыі. Царква заснаваная Госпадам Ісусам Хрыстом, які каменем пад будову Свае Царквы азначыў вызнаньне веры ап. Пятра, выказанае ім ад імя ўсіх апосталаў. Апосталы былі пасланыя Ім пасьля ўваскрасеньня на прапаведваньне Царквы, якая атрымала новазапаветнае быцьцё праз зыход Сьв. Духа на апосталаў, пасьля якога распачаўся першы апостальскі заклік да Царквы вуснамі ап. Пятра: „пакайцеся, і няхай хрысьціцца кожны з вас у імя Ісуса Хрыста, — і атрымаеце дар Сьв. Духа" (Д.А. 2,38) і ў той дзень прылучылася каля 3000 душ (Д.А. 2,41), чым і была паложана аснова новазапаветнай Цпрквы.

— Протапрасьвіцер а. Васіль Кендыш

# Праўда й Хлусьня

Дар слова болей за ўсё адрозьнівае чалавека ад жывёлы. Элемэнты слова: гукі гартанныя, губныя, носавыя, тонкія, густыя, высокія й нізкія могуць выконваць і жывёлы, але ні адна жывёла не стварыла ніводнага слова. У мове бяз сумніву праяўляецца пераход ад цялеснага да духовага. Сыры матарыял мовы належыць прыродзе, таму й птушкі (напрыклад, папугай) могуць вымаўляць чалавечыя словы, але форма мовы, што асабліва і робіць яе камунікацыйнай прыладай, належыць духу.

Усе нашыя словы паходзяць ад усялякіх каранёў, а кожны корань выражае якое-небудзь агульнае паняцьце. Без каранёў няма мовы, без паняцьця няма каранёў — такія асноўныя праўды моваведы. З другога боку, шматлікія вучоныя выказвалі думку, што існаваньне паняцьця не магчымае без дапамогі слова. Паўсталая думка захоўваецца ў людзкой памяці і найбольш у гукавой форме. Бяз слоў можна бачыць і адчуваць рэчы, думаць аб іх, прыпамінаць былыя пачуцьці, але папаўняць дазнаньне і абагульняць успрынятае можна толькі пры помачы мовы.

Слова падняло чалавека на лёсках творчасьці вышэй усяго зямнога, яно спалучыла людзей у грамадзтвы, стварыла дзяржавы. У слове зачараваная веда, мудрасьць, закон; словам пашыраецца дабрадзейнасьць, у слове — магчымасьць малітвы. Чалавечае слова творыць цуды. Слова ў кожнага чалавека сваё: яно ёсьць выражэньнем сутнасьці душы. Дзеля гэтага Спасіцель пытаў фарысеяў:„як вы можаце гаварыць добрае, будучы благімі?" (Мац. 12,34).



Звычайна гавораць: „твар — люстэрка душы". Але справядлівей будзе назваць слова адлюстраваньнем душы. Аднаўляецца душа, паляпшаецца й слова. Падае маральна чалавек, пагаршаецца й ягоная гутарка. Калі ў кішэні чалавека больш вялікіх манэт, чым дробных, то часьцей будуць вымацца дробныя манэты. Так і слова нашае — гэта рука, што дастае прыхаванае з дна душы. З крана цячэ тая вадкасьць, якой напоўнена ўся сыстэма. Язык наш — кран і мімавольна, неабходна выскажа тое, чым поўна душа.

„Словам Госпада створаны нябёсы" (Пс. 32,6). Скажам, што гэта не такое слова, як у цябе, ці ў мяне. Так, слова Божае бесконца вышэй слова людскога. Але паколькі ты створаны па вобразу Божаму, дык і ў тваім слове павінен быць нейкі сьлед слова Божага і Ягонай сілы, калі ты не зацямняеш яго злоўжываньнем, не абвугляеш яго няўвагай і лёгкадумствам. На слове трымаецца стан сямейны, грамадзкі й дзяржаўны. „Дабраслаўленьнем праведных узвышаецца горад, а вуснамі бязбожных разбураецца". Ды нятолькі злосьць мае разбуральную сілу, але і яе саюзьніца — хлусьня. Ілгарства ёсьць шматбаковае й прычэпістае. Ніхто ад яго поўнасьцю не застрахаваны. „Я сказаў, — з сумам усклікае Давід, — я сказаў у расслабленьні маім: усякі чалавек ілгун" (Пс. 115,2). Ілгарства —спрадвечны вораг чалавека. Яно сьцеражэ сваю здабычу. Карыстаецца неабдумнасьцю, спалохам, прывязанасьцю, варожасьцю, каб злавіць яго ў сваю сетку. І калі ён не прыкладзе сілы і ўвагі да змаганьня з гэтым ворагам, то станецца ахвярай таго недахопу ад якога атрымаў свой назоў дыявал — „бацька лгарства" (Ян 8,44). Ілжа ніколі не прыходзіць адна: яна цягне за сабою цэлы ланцуг ашуканства, выверткі, абгавораў. Толькішто ты салгаў і ты ўжо сьплятаеш у сваім розуме новае ілгарства, каб унікнуць упіку. Запраўды кепская загана ў чалавеку ілгарства. Ляпей ужо злодзей, чым вечны ілгун; але абодва яны прысуджаны на пагібель. Паводзіны ілгуна бясчэсныя і ганьба яго заўсёды з ім (Сірах. 20,24-26).

Ілгарства ёсьць і грэх супраць праўды. „Ілгун, чалавек ня просты, але падвойны, бо іншы ён у нутры, а іншы навонкі, ды ягонае жыцьцё падвойнае й зманлівае." (Авва Дарафей). „Дзіця ілгарства ня ведае, ня ведае яго й душа нязлосная". Каб навучыцца ілгаць, трэба учыніць над сабою духоўнае самагубства: прытупіць сумленьне — гэты ворган Духа Праўды. Чалавек, які не зрабіў ў сваёй душы гэтага прытупленьня, выказаўшы няпраўду чырванее, саромяецца. Прывыкшыж да ілгарства, ён траціць пашану да ўласнай маральнай годнасьці. Але хто сябе ня ўважае, той і з іншымі абыходзіцца не згодна з вымогамі праўды: сярод людзей ілгун бачыць толькі нагоду для

дасягненьня эгаістычных, часамі вельмі дробных мэтаў. Сьв. Апостал Павал кажа: сільнейшае пабуджэньне да праўдзівасьці паказвае на тое, што хрысьціяне — сябры адзін другога. (Эфес. 4,25). Толькі ці можам сказаць, што так яно ёсьць сяньня сярод нас?

---

*Паўлюк Верны*

# І Мы За Вунію!...

Сцаленьне ўсяго Хрысьціянства ўв адну ідэйную суцэльнасьць — рэч ня толькі пажаданая, але абсалютна неабходная і пра гэта ня можа быць ніякае спрэчкі. Адно справа ў тым, якое гэта будзе спалучэньне і на якіх мае яно базавацца асновах. Вось у гэтым, бадай, увесь корань нязгоды. Ужо з часоў Ягайлавай вуніі Літвы з Польшчай вядзецца з лацінскага боку ядавітая і, ясна, хлусьлівая кампанія супроць нашае Царквы за тое, што Яна, разам з іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі, быццам ёсьць супроць задзіночаньня хрысьціянскіх Цэрквыаў ўв адно цэлае. Паколькі Цэрквы Ўсходу не ўважаюць за магчымае ўваходзіць у дыскусіі з лацінскімі герэтыкамі, уся справа аказалася акінутай і астаецца недастаткова яснай для шырокіх колаў вернікаў. Беларусам, такі стан асабліва шкодны ў гэты цяжкі для Народу і Царквы наш час. Таму ўважаю за неабходнае даць колькі выясьненьняў — не ў парадку дыскусіі...

Вуніяты, тыя рыма-клікуны, натварылі шмат надта-ж панадных клічаў, як прыкладам — „Да злучэньня!", „За еднасьць!", або „Каб усе былі адно!" Ці-ж ня прыгожа? Здавалася-б, што можа быць лепшага за злучэньне ўсіх Цэркваў, за задзіночаньне ўсіх Хрысьціянаў! Гэта-ж ідэал, да якога ўсім трэба імкнуцца і, калі не разабрацца ў справе бліжэй, лёгка можна праглынуць кручок... А ён тут ёсьць і добра прыхаваны! Бо ўсе гэтыя гучныя клічы недамоўлены: да злучэньня, за еднасьць — але каго і з кім, так і не сказана; каб усе былі адно — а ў чым, ня выясьнена. Нечага тут не хапае... А так, ёсьць адно слоўца, якім нашы агітатары за вунію баяцца спудзіць рыбку, каб яна ім не разьбеглася, пакуль не папала ў сетку... Што-ж гэта за слоўца такое магічнае? А вельмі проста, гэта той самы стары Рым... Калі-б вуніяты былі шчырымі, тыя клічы гучэлі-б так: „Да злучэньня з Рымам!", „За еднасьць з Рымам!", „Каб усе былі адно з Рымам!" Тут відаць у чым справа: уся ідэя вуніі — гуртаваньне круга Рыму. Ніякае іншае вуніі Ватыкан на прызнае... А шкада, бо якраз тае іншае вуніі-злучэньня Хрысьціянству трэба, як паветра.

Цікава прасачыць, якой гэта суцэльнасьці патрабуе сусьветная



хрысьціянская грамадзкасьць? Каб правільна разгледзіць гэту праблему, каб ня зьбіцца з дарогі, найлепш трымацца Слова Божага. На пачатак возьмем той важны вуніяцкі кліч „Каб усе былі адно..." Гэта добра вядомыя, вялікія словы Спаса нашага, Ісуса Хрыста, якія чытаем у Евангельлі Яна, дзе разьдзел 17 так і завецца „Малітвай Хрыстовай за Адзінства". Вось колькі вытрымкаў стуль:

> „Войча Сьвяты! Захавай іх у імя Тваё — тых, якіх Ты Мне даў — каб яны былі адно, як і Мы..." і далей: „... Ды не за іх толькі малю Я, але і за тых, што паверылі ў Мяне па слову іхняму, каб усе былі адно, як Ты, Войча, ува мне і Я ў Табе; каб і яны былі адно ў Нас, каб паверыў сьвет, што Ты паслаў Мяне. І славу, што Ты даў Мне, Я даў ім, каб былі адно, як Мы адно: Я ў іх і Ты ўва Мне, хай будуць дасканалымі ў задзіночаньні, і хай пазнае сьвет, што Ты паслаў Мяне і што Ты палюбіў іх, як палюбіў Мяне..." (Ян,17,11,20-23).

Як бачым, у гэтай прыгожай малітве Збаўца наш астаецца вылучна на роўніцы адзінства духовага, тога самага, якое ёсьць паміж Ім і Богам Айцом. Таму ясна, што няма ў гэтай малітве найменшага намёку ні на Рым, ні на якую іншую лякалізацыю таго адзінства на зямлі. Ды, як ведаем, Госпад наш нідзе ня даў ніякіх бліжэйшых указаньняў, ці настаўленьняў, адносна будучага арганізацыйнага характару Царквы Свае, за вылучэньнем толькі агульнага прынцыпу саборнасьці, які якраз моцна сьведчыць пра тое, што Сам Ён быў рашуча супроць цэнтралізацыі гэтае-ж Царквы і гэта ёсьць найважнейшым аргумэнтам супроць тае Вуніі ў разуменьні Ватыкану.

Далей, з усяго кантэксту прыведзянае цытаты бачым, што як заўсёды так і тут Ісус Хрыстос турбуецца вылучна і толькі пра веру — у Яго на думцы толькі адно: адзінства веры! Між Богам Айцом і Сынам адзінства дасканалае, чыста духовае. Такой самай суцэльнасьці Ісус Хрыстос жадае і дзецям Сваім, Хрысьціянам: „... каб усе былі адно, як Ты Войча, ува Мне і Я ў Табе, каб і яны былі адно ў Нас..., хай будуць дасканадымі ў задзіночаньні..." А дасканалым можна быць толькі ў духовым адзінстве, не ўв арганізацыйным. Вось якое разуменьне „злучэньня", „еднасьці", „вуніі" ў Хрыста і навет там, дзе Ён сьцьвярджае, што „будзе адно стада і адзін пастыр..." (Ян,10,16), бо тым пастырам ёсьць ня хто іншы, як Сам Госпад Ісус Хрыстос: „Я пастыр добры..." (Ян,10,11).

Можа паўстаць пытаньне: Ці такое талкаваньне слоў Хрыстовых і самое ідэі хрысьціянскай суцэльнасьці ёсьць правільнае? На шчасьце ёсьць спосаб усё гэта дакладна праверыць — хопіць пацікавіцца, як на ўсё гэта глядзелі тыя, хто ведаў Хрыста найлепш, г.зн. Ягоныя вучні, сьв. Апосталы. Асабліва важныя тут пасланьні сьв. Апостала Паўлы, у якіх, трэба лічыць, знайшлі свой адбітак погляды ўсіх Апосталаў — на іх і сканцэнтруем нашу ўвагу. Пішучы да Эфэсцаў, Паўла навучае іх, каб „рупліва стараліся захаваць адзінства духу ў саюзе міру. Адно

цела і адзін дух... Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне; Адзін Бог і Айцец усіх, Які над усімі і праз усіх і ўва ўсіх нас." (Эф.4,3-6). Далей ён кажа, што Бог „паставіў адных Апосталамі, другіх Прарокамі..., іншых евангелістамі, пастырамі... на будаваньне Цела Хрыстовага, пакуль усе дасягнем адзінства веры і глыбокага пазнаньня Сына Божага..." (Эф.4,11-13). Ён заяўляе вернікам: [Вы] „узьведзены на падваліне Апосталаў і Прарокаў, галоўным вуглавым каменем якое ёсьць Сам Ісус Хрыстос, на Якім уся будыніна на векі замацаваная расьце ў сьвяты хорам у Госпадзе..." (Эф.2,20-21). І ўрэшце сьцьвярджае: „... Хрыстос Галава Царквы..., [і] Царква пакараецца Хрысту..." (Эф.5,23,24).

Таксама, пішучы да Рымлянаў, Паўла заяўляе: „... мы многія складаем адно цела ў Хрысьце..." (Рым.13,5), а таму кліча ўсіх верных: „... будзьце аднадумнымі між сабою...", „каб вы аднадушна, аднымі вуснамі ўслаўлялі Бога і Айца Госпада нашага Ісуса Хрыста..." (Рым.12,16;15,6). У сваіх лістах да Карынцянаў Апостал заклікае: „Малю вас, браты, Імем Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб усе вы гаварылі адно і ня было-б між вамі падзелаў, але вы былі злучаныя ўв адным розуме і ўв аднэй думцы", бо „адзін хлеб, адно цела мы, хоць і многія, бо ўсе прычашчаемся ад аднаго хлеба...", „бо ўсе адным Духам ахрышчаны ўв адно цела — Юдэі ці Грэкі, рабы ці вольныя, і ўсе напоены адным Духам..." (Кар.1,10;10,17;12,13). „Урэшце, браты, радуйцеся, дасканальцеся, пацяшайцеся, будзьце аднае думкі ў згодзе, а Бог дюбові і міру будзе з вамі..." (Кар.13,11).

Яшчэ выяўней ён выказаўся у сваім пасланьні да Галятаў: „Няма ўжо Юдэя, ані Грэка, няма раба, ані свабоднага, няма мужчынскага роду, ані жаночага: бо ўсе мы адно ў Хрысьце Ісусе..." (Гал.3,28). Урэшце ён наказвае Філіпянам: „Толькі жывеце дастойна Евангельля Хрыстовага, каб мне ... чуць пра вас, што вы стаіцё цьвёрда ўв адным духу, змагаючыся аднадушна за веру Евангельскую..." (Філ.1,27).

Як бачым, хоць сьв. Апостал Паўла глядзіць на справу хрысьціянскага адзінства ўжо з практычнага пункту гледжаньня, усё-ж у яго не знаходзім найменшых адступленьняў ад поглядаў Госпада Ісуса Хрыста. І ён, за Хрыстом, гаворыць пра адзінства Духу, бо ў нас „Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне...", бо ўсе мы складаем адно цела ў Хрысьце", бо „ўсе мы адно ў Хрысьце Ісусе", Які ёсьць Галавою Царквы, а вера ў Яго — галоўнай падвалінай, на якой базуецца ўся будыніна. Але Царква ўсё яшчэ ёсьць у працэсе ўзьвядзеньня і дасканаленьня., „пакуль усе дасягнем адзінства веры і глыбокага пазнаньня Сына Божага..."

Вось так бачым, што ў гэтым важным пытаньні сьв. Апосталы пашлі дакладна сьледам, пазначаным Сынам Госпадам Ісусам Хрыстом — яны гавораць вылучна пра духовае адзінства хрысьціян у Хрысьце Ісусе. За такое адзінства ўсе мы молімся на сьв. Літургіі, калі духаўнік усклікае: „Папрасіўшы спалучэньня веры і прысутнасьці Сьвятога Духа, самі сабе і адзін аднаго і ўсё жыцьцё наша Хрысту Богу аддадзем..." За такое злучэньне-вунію мы молімся ў Сымбалі Веры, калі кажам: „Верую... ўв адзіную Сьвятую саборную і апостальскую Царкву". За такую вунію бязумоўна пастаяць усе хрысьціяне, роўна ўсходнія, як і заходнія. Але вось тая „вунія" папская, вунія груба-прымітыўная, у заложаньні адно адміністрацыйная, зусім адыходзіць ад тае высокае і шляхотнае ідэі адзінства веры і духу, пра якое так трывожна рупіўся Сам Госпад Ісус Хрыстус і сьв. Апосталы. Наагул прыходзіцца з сумам сьцьвердзіць, што ў Рыме наступіла неімаверная прымітывізацыя велічных ідэалаў Хрысьціянства: Найперш было паніжана і скамправітавана Праваднііцтва Госпада нашага Ісуса Хрыста, калі папы абвесьцілі сябе спадкаемцамі сьв. Апостала Пятра і, на гэтай падставе, прад'явілі свае прэтэнзіі да адміністрацыйнага кіраўніцтва і духовага праваднііцтва над усёю Царквою Хрыстовай, ды ўрэшце паставілі сябе „заступнікамі" Хрыста на зямлі... Гэта, бязумоўна, прадсякае галоўны корань нашае Хрысьціянскае Веры і на практыцы зьнішчае ўсе магчымасьці пагадненьня Праваслаўя з Рымам.



Глыбейшых прычынаў усёй гэтай утрапёнай камэдыі трэба шукаць у своеасаблівым гістарычным лёсе Заходняе Царквы: у той час, калі на Ўсходзе Хрысьціянства ўвесь час вяло цяжкое змаганьне за існаваньне, на Захадзе, пасьля завяршэньня пэрыяду вялікіх вандровак народаў і паяўленьня першых сярэдневяковых утварэньняў, палітычная сытуацыя адносна стабілізавалася. А калі гаварыць пра Заходнюю Царкву, дык навет у самы горшы разгар варварскай навалы на Італію і Рым, Яна аказалася адзіным і апошнім ачагом стабільнасьці і ладу. Калі ўсё кругa гарэла і валілася ў руіну, Царква расла і мацнела з году ў год, прытым узрастаў нятолькі лік ахрышчаных, але і матарыяльнае багацьце, а галоўна абсяг тэрыторыяў, якімі Царква адміністравала. Так зарадзіліся т.зв. папскія дзяржавы, дзе папа асабіста быў пануючым сувэрэнам... Нічога падобнага нельга сабе ўявіць на Ўсходзе, дзе Царква заўсёды імкнулася трымацца як найдалей ад усяго сьвецкага, ад улады ітп.. Вось з якіх рэалістычных пачаткаў разьвіліся ўсе тыя фантастычныя прэтэнзіі папаў да панаваньня над Царквою Хрыстовай, да „заступніцтва" Хрыста на зямлі і ўрэшце навет да папскай „беспамылковасьці" — а гэта, відаць, каб ня трэба было апраўдваць перад сьветам усяе гэтае бязглуздзіцы...

Дык каб на гэтым усё яно так і кончылася, было-б поўбяды... Нажаль, памачыўшы пальчыкі ў балота, прышлося загразнуць у ім глыбей і глыбей... — такі, відаць, быў на папства прысуд Божы. Бо ўсе

гэтыя манкіраваньні папскія адбіліся шырокім рэхам у эўрапэйскай палітыцы тых часоў і сягнулі аж да нас, моцна і балюча патурбаваўшы нашых продкаў. У сваей гонцы за ўладай папы адносна рана усвоілі сабе толькі думку пашыраньня хрысьціянскае веры сілком, дарогай накіданьня людзям улады парадкам адміністрацыйнага перахапляньня новых тэрыторыяў, але яшчэ горш — у іх паўстала ідэя збройных нападаў на нехрысьціянскія народы і наварачваньня іх на веру хрысьціянскую агнём і мячом... З гэтай мэтай засноўваліся цэлыя ордэны рыцараў-крыжаносцаў..., якія і ў нашай гісторыі адыгралі не абы-якую ролю. Нічога падобнага ніколі не магло зарадзіцца і разьвівацца на Ўсходзе, дзе людзі ў горы і адвечных пакутах зырка берагуць веру ў Хрыста-Спаса і Ягоную сьвятую спадчыну. Усё-ж нельга не прызнаць, што ўсе гэтыя дзівацтвы памаглі Заходняй Царкве вырасьці з гадамі ў няўклюднага гіганта, ды гэта абставіна, нажаль, замарудзіла, а можа і на заўсёды спыніла працэс Яе аздараўленьня...

# Вера й Дабрадзейнасьць

Аб маральна неахайным чалавеку звычайна гавораць, што „Бога ў ім няма", або, што такі чалавек „на Бога забыўся". Народ прыкмеціў сувязь паміж верай у Бога й маральнасьцю.

Вера служыць крыніцай добрых учынкаў, а добрыя ўчынкі сьведчаць аб веры. Добрыя ўчынкі, як сьвятло, акружаюць чалавека, і бачучы гэтыя ўчынкі, людзі праслаўляюць Айца Нябеснага. Хто веруе ў Айца міласьцівага, той і сам стараецца адлюстроўваць у сваіх адносінах да бліжніх гэтае бацькоўскае міласэрдзе (Лук.6,36), як капля вады адлюстоўвае прыгаство неба.

У сілу тайных суадносінаў паміж гаруючым чалавекам і Богачалавекам, веруючы дапамагае цярпячаму, як-бы Самому Хрысту (Мц.25,35-45).

Веруючы жаласьлівы й уважны да дзяцей таму, што „ангелы іх на нябёсах заўсёды бачаць аблічча Айца Нябеснага" (Мц.18,10) Яшчэ ў часы патрыярхаў вера была крыніцай высокіх гераічных учынкаў (Жыд. гл. 11).

Вера ў самой сабе як-бы носіць абавязковасьць добрага жыцьця. Дзеля гэтага тыя, што прагнуць пашаны, прывязаныя да чалавечай славы, і ўсе любячыя цемру, а ня сьвятло, — ня хочуць веры, уцякаюць ад сьвятла веры, каб ня выявіліся іхныя дзеяньні (Ян 5,44; 3,19-20)

Той хто парушае законы маральнасьці натуральна дбае, каб супакоіць сябе праз адмаўленьне маральнага сьвета-парадку. Немаральнасьць вядзе да адмаўленьня грэху, да ўяўнай безгрэшнасьці. „Немагчыма, запраўды немагчыма, каб той, што праводіць нячыстае жыцьцё ня хістаўся ў веры" (сьв. Ян Залатавусны). Запраўды, жыцьцё ў пакоры, паўстрыманьні, дзейнай любові, вярней усякіх доказаў прыводзіць да веры ў Бога.

Перакананьні, нават не рэлігійныя, а навуковыя, кладуць глыбокую пячатку на сваіх вызнаньнікаў. Перакананаму ўласьціва праводзіць свае перакананьні ў жыцьцё, хоць бы гэта каштавала яму жыцьця.

Калі навуковыя й палітычныя ідэі й вераваньні, абаснованыя на памылковых міфалогіях і сэктанцкіх зацікаўленях, робяць моцны ўплыў на маральнасьць, дык тым большы уплыў на жыцьцё запраўды веруючых павінна мець і мае вера Хрысьціянская.

Гэтая вера не пераняла ў спадку ад продкаў шэраг рэлігійных звычаяў і абрадаў і ня ёсьць разумовае толькі прызнаньне хрысьціянскае праўды, — яна ёсьць „жывая ўпэўненасьць у быцьці Бога, Яго якасьцях і дзеяньнях і сардэчнае прыняцьце аб'яўленага слова Яго аб спасеньні роду чалавечага". Вера ёсьць віноўніца добрай волі і добрых дзеяньняў. (сьв. Амброзій Мэдыёланскі), яна падымае на вышыню (сьв. муч. Ігнат Антыхійскі). У запраўды веруючым жыве Хрыстос, Хрыстовы настрой; яго духоўная ежа — тварыць волю Божую (Эфэс. 3,16-17; Ян 4,34; 14,23).

Дабрадзейнае ўзьдзеяньне хрысьціянскае веры на маральнасьць мімавольна прызнаецца нават праціўнікамі Царквы. Не падзяляючы хрысьціянскага жыцьцяразуменьня, яны ўсё-ж прад'яўляюць хрысьціянам і Царкве вышэйшыя пратрабаваньні, чым сабе.

Супраць неабходнай сувязі хрысьціянскае веры з дабрадзейнасьцяй звычайна выстаўляюць тое запярэчаньне, што і ў Царкве ёсьць людзі дрэннай маралі і, што паміж няверуючымі спатыкаюцца асобы высокамаральныя. Першая палавіна спрэчкі адкідаецца тым, што Царква на зямлі ня ёсьць яшчэ Валадарства Божае, царства дасканалых. Царква, гэта поле, на якім вораг чалавецтва з няўтомным стараньнем сее пустазельле. Царква, гэта дрэва, на якім гнезьдзяцца розныя птушкі. Царква, гэта невад, што захапіў у глыбіні возера й рыбаў і гадаў. Не ўва ўсім сьвеце, але ў Царкве „шмат пакліканых, але мала выбраных".

Што, з другога боку, паміж няверуючымі спатыкаюцца й людзі маральныя, гэта не павінна нас зьдзіўляць. „Калі Бог стварыў чалавека, дык удыхнуў у яго нешта Боскае, як-бы нейкую асаблівую здольнасьць, што мае ў сабе нібы іскру агню, цеплату й сьвятло, каб яна асьвятляла яго розум і паказала яму розьніцу паміж дабром і злом. Яно завецца сумленьнем, якое ёсьць законам натуральным"... (прэп. Авва Дарафей). Ніводзін чалавек ня робіць зла або дабра па неабходнасьці, але ўсё — па вольнай волі. Сапсуцьцё, зробленае ў

душы чалавека спадчыннасьцю грахоўнага пажаданьня, не такое, каб яно не пакідала магчымасьці думаць, жадаць і рабіць дабро бяз звышнатуральнай жыватворчай дапамогі.

Калі паміж двума вадкасьцямі знаходзіцца пранікальная для іх перагародка, дык гэтыя розныя вадкасьці праходзяць адна ў другую, да некаторай ступені зьмешваюцца. Такую зьяву фізыкі называюць эндосмасам для вадкасьці, атрымоўваючай павялічэньне аб'ёму ад пранікненьня другое вадкасьці, і экзосмасам для вадкасьці зьменшанае пры зьмяшаньні. Вось такая-ж зьява эндосмасу й экзосмасу праходзіць праз перагародку сьвятога хрышчэньня ад суседства Царквы з нехрысьціянскім сьветам. І ў Царкву пранікаюць элемэнты сьвету вонкавага, і хрысьціянскі сьветапогляд робіцца да некаторй ступені ўласнасьцю нехрысьціянаў. Але сьвет успрыймае нястолькі ідэі дагматычныя, колькі маральныя, адрываючы іх ад свае асновы.

У чалавека, які знаходзіцца па-за Царквою, маральныя ідэі Евангельля знаходзяць сваю апору ў натуральным законе сумленьня. У гэтым сэнсе справядлівае глыбокадумнае, паходзячае з старажытнасьці выказваньне, што душа чалавека, па прыродзе — хрысьціянка.

# ПРАСЬЛЕД ДЫЯКАНА ЎЛАДЗІМІРА РУСАКА

Выдаваная ў Парыжы газэта „Русская мысль" (Нр.3637 з дня 6-га верасьня 1986 г.) зьмясьціла зварот дыякана Ўладзіміра Русака аб дапамозе выехаць яму з СССР.

Дыякан Ўладзімір Русак у свой час зьвярнуўся да дэлегатаў Шостае Гэнэральнае Асамблеі Сусьветнай Рады Цэркваў у Ванкувары з „Адкрытым лістом", у якім таксама прасіў помачы. Ліст гэты ня быў агалошаны на Асамблеі, але перадаваўся з рук у рукі паміж дэлегатамі і ніякай помачы чалавек не атрымаў.

Няпрыемнасьці а. Ўладзіміра пачаліся з таго мамэнту, калі яго духоўны айцец, архіепіскап Піцірым Волакаламскі даведаўся, што ён напісаў кнігу аб навейшай гісторыі Праваслаўнае Царквы ў Савецкім Саюзе. Да гэтага а. Уладзімір працаваў у выдавецкім аддзеле Маскоўскае Патрыярхіі і, такім чынам, меў доступ да розных цікавых дакумэнтаў адносна палажэньня Царквы ў Савецкім Саюзе. Арх. Піцірым радзіў а. Уладзіміру зьнішчыць сваю працу; у выніку адмовы, ён быў выкінуты з Патрыярхіі, пазбаўлены пасады й высланы на Беларусь у Віцебск дзе 28/III/82 сказаў дасканалую пропаведзь са сьмелым прыпамненьнем савецкіх нова-мучанікаў. Пасьля



гэтага прасьлед, з боку як дзяржаўных так і царкоўных уладаў, узмоцніўся. Як а. Уладзімір прыпамінае ў сваім „Адкрытым лісьце", ён часта арыштоўваўся. Звычайна тыя арышты супадалі з прыбыцьцём гасьцей у Маскву.

Але найбольшым ударам для яго было забраньне ягонага архіву — усіх рукапісаў, улучна з рукапісам гісторыі Царквы, іншых матэрыялаў да кнігаў, зацемак, карэспадэнцыі, шматлікіх артыкулаў і розных падрыхтаваных матэрыялаў.

Айцец Уладзімір быў пазбаўлены магчымасьці служэньня Царкве ў якой-бы ня было якасьці — чытачом, сьпеваком, царкоўным старастам ці навет прыбіральнікам. Каб унікнуць асуджэньня за дармаедзтва, ён быў змушаны працаваць на агароднікавай базе. Тым ня менш, ён баяўся, што яго прыцягнуць да судовай адказнасьці на аснове арт. 70-га й 190-га (антысавецкая агітацыя й ачарненьне савецкага строю).

Айцец Уладзімір атрымаў некалькі запросінаў на эміграваньне, высланых яму з заграніцы. Некалькі выклікаў, атрыманых ім, таксама не падзейнічалі. З асаблівым болем а. Уладзімір перажывае немагчымасьць працаваць у бібліятэках па тых тэмах, якія яго цікавяць. Гэта, перш за ўсё, гісторыя Расейскае Праваслаўнае Царквы ў навейшы час. У гэтай галіне ён, магчыма, ня мае канкурэнтаў. Аднак, як паведаміў яго ўпаўнаважаны па справах рэлігіі пры Радзе Міністраў СССР у Маскве А. С. Плеханаў, ён ня мае навет права займацца гісторыяй, паколькі ня мае адпаведнага дыплёму. І гэта ня гледзячы на тое, што ён скончыў Маскоўскую Духоўную Акадэмію са ступеняй кандыдата багаслоўя „за працу па гісторыі Царквы". Як ня дзіўна, апінія Плеханава была пацьверджана мітрапалітам Менскім Філарэтам. Трэба сказаць, што наагул у справе прасьледу а. Уладзіміра КГБ і вышэйшая царкоўная герархія заўсёды дзейнічалі з нязьменным адзінадушшам.

Айцец Уладзімір ужо ня раз зварочваўся „да ўсіх людзей добрае волі з просьбай дапамогі". У адным такім звароце ён піша: „Я малю Вас Уладыка, і ўсіх, хто пачуе мой голас, дапамагчы мне выехаць з Саюзу ўва ўсякую краіну за межамі соцлягеру, дзе ёсьць праваслаўная царква й слова Бог яшчэ пішуць зь вялікай літары."

Газэта паведамляе, што а. Уладзімір Русак быў зноў арыштаваны 22 красавіка 1986 году з абвінавачаньнем у антысавецкай агітацыі й прапагандзе.

Неабходна трэба было-б неяк дапамагчы гэтаму сьмеламу сьведку, які церпіць за свае перакананьні й за вернасьць Праўдзе Божай. Трэба, каб вернікі БАПЦ у сваіх штодзённых малітвах паміналі а. Ўладзіміра ды ўсіх Беларусаў, якія церпяць прасьлед з боку чырвонай сатаны.

Цяпер стала ведама на Захадзе, што а. Уладзімір Русак быў асуджаны ў Маскве 27 верасьня 1986 г. паводля арт. 70 УК РСФСР („антысавецкая агітацыя й прапаганда") на максымальны тэрмін: сем гадоў зьняволеньня строгага рэжыму й пасьля гэтага, калі выжыве, пяць гадоў ссылкі. Так выглядае гарантаваная савецкай канстытуцыяй бальшавіцкая свабода рэлігіі ў СССР.

# Парахвіяльная Хроніка

## • *Парахвія Сьв. Віленскіх Мучанікаў, Мэльбурн, Аўстралія*

**1.** 66-тыя Ўгодкі Слуцкага Змаганьня, Беларуская грамада ў Мэльбурне і ваколіцы урачыста абыходзіла 23-га лістапада, 1986 г. Урачыстасьць пачалася ПАНІХІДАЙ за аддаўшых жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына, у мясцовай Парахвіі сьв. БАПЦарквы. Пасьля Паніхіды ў прыцаркоўнай залі адбылася сьвецкая частка урачыстасьці: Рэфэрат на тэму дня, гурток „Каліна" выканаў некалькі песьняў у тым ліку „Сьпі Пад Курганам Гэрояў", таксама былі дэклямаваныя патрыятычныя вершы.

**2.** 17-га сьнежаня, 1986 г. вернікі Мэльбурнскае Парахвіі сьв. БАПЦ, на чале з настаяцелем, з прыгожым букетам жывых красак, на Мэльбурнскім лётнішчы сустрэлі Ўладыку Мітрапаліта Ізяслава, Першагерарха сьв. БАПЦ, што прыбыў сюды, каб ачоліць урачыстасьць 5-ых Угодкаў Пасьвячэньня нашага храму.

**3.** 20-га сьнежаня, Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў у саслужэньні з настаяцелем а. Аляксандрам адслужылі Вячэрню.

**4.** 21-га сьнежаня, 1986 г. у Парахвіі сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне, служылася Архірэйская Багаслужба й Малебен Удзячнасьці. Падчас сьв. Літургіі Міхаіл Бурнос (доўгалетні рэгент Пятра-Паўлаўскае Парахвіі сьв. БАПЦ ў Адэлайдзе) быў рукапаложаны ў сан дыякана. Прысутнічала багата вернікаў. Прыгожа выглядала Цпрква, удасканалены Іканастас. Прыгожа сьпяваў царкоўны хор. Малебен Удзячнасьці саслужылі: Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў, а. Аляксандар (настаяцель), а. дыякан Міхаіл і а. Уладзімір Салыга (УАПЦ). Таксама прысутнічалі: а. Іскандар з Сырыйскае Царквы, а. Думітру з Румынскае Царквы, ды а. Ефтім з Макэдонскае Царквы. Пасьля Багаслужбы, Сястыцтва пры Парахвіі зладзіла ў прыцаркоўнай залі багаты пачастунак. Гурток „Каліна" і на гэты раз пацешыў прысутных сваімі мілагучнымі напевамі, беларускімі народнымі песьнямі.



**5.** 4-га студзеня, 1987 г. настаяцель з часткай вернікаў прынялі актыўны ўдзел у Багаслужбах у Пятра-Паўлаўскай Пархвіі БАПЦ у Адэлайдзе, ачоленых Уладыкам Мітрапалітам Ізяславам. Падчас Архірэйскай сьв. Літургіі Ўладыка Мітрапаліт Ізяслаў рукапалажыў а. дыякана Міхаіла ў сан ерэя і, прызначыў яго настаяцелем тае-ж Пархвіі. Малебен саслужылі: Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў, Пратапр. Аляксандар Кулакоўскі, а. Міхаіл Бурнос. а. Прат. Аляксандар Зелінскі і а. Драгалюб Петковіч (Сэрбскае Царквы). Пасьля Багаслужбы у прыцаркоўнай залі зладжаны багаты пачастунак.

**6.** 6-га студзеня 1987 г. (24-га сьнежаня 1986 г. па ст. ст.) у сьвяты Вечар — Куцьця ў Пархвіі сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне. Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў і а. Аляксандар адслужылі Вялікае Павячэр'е. Пасьля Багаслужбы ў прыцаркоўнай залі Сястрыцтва зладзіла традыцыйны прадсьвяточны пачастунак — Куцьцю, каторую супольна спажывалі на пакрытых сенам сталох пры асьвечанай розна-каляровымі лампачкамі ёлцы.

**7.** 7-га студзеня 1987 г. (25-га сьнежаня, 1986 г. па ст. ст.), Раство Хрыстовае, Архірэйская Багаслужба. Прысутнічала багата вернікаў і гасьцей з другіх штатаў і з-за мяжы, што прыбылі на 7-ю Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі. Пасьля сьв. Літургіі ў прыцаркоўнай залі Сястыцтва зладзіла супольны пачастунак. А гадзіне 15:00 Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў Добраславіў 7-ую Сустрэчу. Гурток „Каліна" прывітаў 7-ую Сустрэчу беларускімі „Калядкамі" ды адной песьняй на ангельскай мове. А галзіне 16:00 настаяцель а. Аляксандар з духавенствам Праваслаўных, Протэстанскіх і Р. Каталіцкіх цэркваў сустракалі Антыяхійскага Патрыярха.

**8.** 11-га студзеня, 1987 г., у Парахвіі Віленскіх Мучанікаў служылася Архірэйская сьв. Літургія й Новагодні Малебен. Пасьля Багаслужбы Сястрыцтва зладзіла багаты супольны пачастунак на афіцыйнае Разьвітаньне з Уладыкам Мітрапалітам Ізяславам. Старшыні Парах. Рады й Сястрыцтва дзякавалі Ўладыку за Архіпастырскую візытацыю, ды за падбадзёраньне вернікаў БАПЦ у нашай цяперашняй бацькаўшчыне — Аўстраліі. Былі даручаны й падарункі. 14-га студзеня, 1987 г., на Мэльбурнскім лётнішчы, паўтара дзесятка вернікаў на чале з настаяцелям і матушкай разьвіталіся з дарагім Уладыкам Мітрапалітам Ізяславам.

**9.** 8-га лютага, 1987 г., адбыўся чарговы гадавы справаздачны парахвіяльны сход. Справаздача скарбніка паказала, што ня гледзячы на надзвычай вялікія выдаткі парахвія за мінулы 1986-ы год вывязалася досыць добра.

**10.** 22-га лютага, 1987 г., служылася другая з чаргі Багаслужба ў ангельскай мове. З прыемнасьцю трэба адзначыць, што як на першай

так і на другой Багаслужбе прысутнічала багата вернікаў, перадусім у маладым веку. Чыталі гадзіны, Апостала і Эвенгельле на ангельскай мове маладыя хлапцы і сьпявалі маладыя дзяўчаты.

## • Парахвія Сьв. Кірылы Тураўскага, Бруклін, З.Ш.А.

**• УСПАМІН ПАМЕРЛЫХ ЗА БАЦЬКАЎШЧЫНУ.** У нядзелю 7-га сьнежня 1986 г., пасьля сьв. Літургіі Ўладыка Мітрапаліт Ізяслаў адправіў паніхіду за супакой душаў усіх тых, што аддалі жыцьцё за нашую Бацькаўшчыну. Пасьля Багаслужбы ў царкоўнай залі быў прыгатаваны Сястрыцтвам успамінны абед. Сьвяткаваньне папярэдзіла супольная малітва ды ўсьлед хвіліны цішыні закончаная прапяяным усімі жалобным маршам. Прысьвечанае тэме дня слова сказаў сп. Б. Данілюк, зварочваючы ўвагу на тое, што жыцьцё за Бацькаўшчыну аддавалі ня толькі на баёвых палёх, але й тыя, што працай і бяззбройным змаганьнем забясьпечвалі ды ўмацоўвалі магутнасьць і незалежнасьць нашае Дзяржавы. Як прыклад гэткіх гэрояў прамовец згадваў стваральнікаў Статутаў Вялікага Княства Літоўскага й значэньне гэтых Статутаў, асабліва 2-га, 420-я ўгодкі прыйма якога прыпалі якраз у 1986 годзе. Пасьля гэтага, прысутныя мелі прыемнасьць пазнаёміцца з госьцям з Англіі, сп. Янам Ясьвіловічам, хто расказаў праз дзейнасьць беларускае эміграцыі ў Англіі, а таксама падаў ведамыя яму факты з жыцьця беларусаў у Беласточчыне.

**• АД'ЕЗД УЛАДЫКІ МІТРАПАЛІТА Ў АЎСТРАЛІЮ.** У нядзелю 14-га сьнежня 1987 г., на сьв. Літургіі адчувалася асаблівя ўрачыстасьць, бо адпраўляў яе Ўладыка Мітрапаліт Ізяслаў разам з заўсёды радасна вітаным у нас а. прат. Максімам. Айцец Максім прыехаў заступіць Уладыку бо, пасьля толькі год ачольваных нашым Архіпастырам Каладных Багаслужбаў, сёлета Ён ня будзе з намі падчас Іх, бо абавязкі й роўная любасьць да ўсіх вернікаў БАПЦ клічуць Яго ў далёкую Аўстралію, дзе Ён затрымаецца больш як месяц.

**• ПАДЗЯКА Й ПАХВАЛА.** Згодна з вымогамі на дасягненьне ступені Арла-Скаўта, сябра гэтае арганізацыі моладзі з 134-ае дружыны ў Могігэн Лэйк, Н.Ё., сп. Аляксандар Нэстар зрабіў Катэдральнаму Сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне вялікую ды каштоўную прыслугу. Сваім надумам і ўменьнем патрапіў ён здабыць грошы, матэрыял ды памочнікаў да працы, у выніку якое для нашае царквы былі зробленыя 20 мякка абабітых падкаленьнікаў.

**• ГАДАВЫ СПРАВАЗДАЧНЫ СХОД.** У нядзелю 15-га сакавіка 1987 г., адбыўся гадавы справаздачны сход парахвіі. З галаўнейшых справаў Парахвіяльная Рада паведаміла праз пасьпяховае заканчэньне рамонту зацёку ўсходняе сьцяны будынку, пляне аднаўленьня пашкоджаньняў ад зацёку ў сярэдзіне ды ўстанаўленьня новага мэталёвага крыжа на вільчыку страхі. Пасьля разважаньняў, сход пастанавіў падняць суму грашовага звароту духавенству. У касе, за мінулы год, балянс павялічыўся больш як на тысячу даляраў.



**• СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЎЗНАЎЛЕНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.** У нядзелю 29-га сакавіка г.г., з прычыны 69-х Угодкаў Узнаўленьня Незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Актам 25-га Сакавіка, Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў, пасьля сьв. Літургіі, адправіў у Катэдральным Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне малебен за вярненьне свабоды зьняволенаму Беларускаму Народу. Працяг сьвяткаваньня ладзіла ўпярша новая грамадзкая арганізацыя — Беларуска-Амэрыканскі Хаўрус, запрашаючы ўсіх прысутных на багаты посны абед зрыхтаваны ў царкоўнай залі з ласкі нашых гаспадыняў. Слова на тэму дня сказаў др. Р. Гарошка, рэдактар „Беларускага Часу", і зьвярнуў увагу на той факт, што Акт 25-га Сакавіка нельга разумець як стварэньне новае нацыі ў 1918 годзе, але трэба ўсьведамляць і ўсьцяж разгалошваць, як выяў узнаўленьня нашае даўняе дзяржаўнасьці — Гаспадарства Літоўскага — з слаўнай гісторыяй якога ды й з нашым тагачасным назовам неабходна зноў адчуваць адзінства й гонар. Сп. Б. Данілюк падаў да ведама колькі фактаў і зьяваў, што сьведчаць праз узмацненьне супрацiву ў нашым народзе русыфікацыйнаму націску й праз дзе якія ў гэным змаганьні дасягненьні.

---

# ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

У сувязі з 7-мі гадовым закалотам выкліканым у парахвіі Жыровіцкае Божае Маці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Гайленд Парк, Нью Джэрзі, праз забароненага ў служэньні былога сьвятара Александра Яноўскага й страціўшага сан былога арх. Мікалая (сёньня Міхаіла Мацукевіча), ды адшчэпніцтвам парафіянаў у парафіях: Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, Сьвятога Духа ў Дэтройце, Сьвятой Тройцы ў Дораты, Нью Дж., і Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, Канада, пры гэтым падаецца Вам, да ласкавае ўвагі выпіс Апостальскіх Правілаў і параграфаў Статуту Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якія датычаць гэтага нягоднага выпадку ў нашай Сьвятой Царкве.

Кіраўніцтва БАПЦарквы вымушана было зьвярнуцца да судовых інстанцыяў у справе звароту, захопленае сілком, маемасьці Царквы.

—Кансысторыя Б.А.П.Ц.

# З КНІГІ ПРАВІЛАЎ, ЧАСТКА І і СТАТУТУ БАПЦ

13 ліпеня, 1978 году, на Саборы Епіскапаў БАПЦ, пастаноўлена падзяліць БАПЦ на Епархіі:

а). да Ўладыкі Мітрапаліта Андрэя парафіі ў ЗША й Аўстраліі,

б). да Архіепіскапа Мікалая парафіі ў Канадзе й Эўропе.

Пратакол падпісаны абодвума.

## АПОСТАЛЬСКІЯ ПРАВІЛЫ

Прав.1. Епіскапа няхай пастаўляюць два або тры Еніскапы.

Прав.10. Калі хто з адлучаным ад Царквы памоліцца, хоць бы было гэта ў доме, такі да будзе адлучаны.

Прав.12. Калі хто з кліру або міран, ці недастойны да прыняцьця ў клір, адыйшоў ад Царквы, у іншым месцы будзе прыняты без адпускное граматы: да будзе адлучаны прыняўшы й црыняты.

Прав.16. Каліж Епіскап, у якога нешта такое можа здарыцца, ня ўзяў на ўвагу выданую ім забарону служэньня, прыме іх як сяброў кліру: да будзе адлучаны, як вучыцель беспраўя.

Прав.28. Калі хто, Епіскап, або прасьвіцер, або дыякан, справядліва за яўную віну адлучаны, адважацца пачаць служэньне, некалі яму даручанага: такі зусім адсякаецца ад Царквы.

Прав.29. Выясьненьньне. Епіскап або клірык, пазбаўлены сану, робіць кашчунства калі адважыцца служыць, пасьля таго, што варочае яго ў стан міраніна. Дзеля гэтага, ён за такі грэх адлучаецца ад Царквы.

Прав.31. Калі які прасьвіцер, збунтаваўся супраць свайго Епіскапа, асобна сходы рабіць будзе: да будзе адлучаны ад Царквы разам з клірыкамі, якія яго насьлядоўваюць

ПАЯСЬНЕНЬНЕ да гэтага правіла: збунтаваўшыся й аддзяліўшыся ад свайго епіскапа зачыншчык бунту й пайшоўшыя за ім міране робяць цяжкі грэх поўнага зьневажаньня да богаўстаноўленага парадку й забываньня таго, што прыналежнасьць паствы да Царквы й яе дабрадатнага жыцьця адбываецца праз свайго епіскапа, аддзяліўшыся ад яго, яны аддзяляюцца ад Царквы.

Прав.32. Калі які прасьвіцкр, ці дыякан будзе адлучвны Епіскапам, можа быць прыныты да служэньня толькі Епіскапам адлучыўшым яго, хіба толькі ў выпадку сьмерці Епіскапа адлучыўшага яго.



Прав.34. Епіскапам кожнага народу трэба ведаць першага зь іх, і прызнаваць яго як галаву (Першагерарха), ды нічога не рабіць без ягонае згоды: а рабіць кожнаму толькі тое, што датычыца толькі ягонае Епархэіі.

Прав.35. Забараняецца Епіскапу рукапалагаць у ярэі й дыяканы паза-межамі свае Епархіі. І калі выявіцца, што Епіскап даканаў рукапалажэньне ў неналежачай яму Епархіі без паразуменьня з правячым Епіскапам, то такі Епіскап пазбаўляецца сану.

Прав.38. Епіскап хай мае апеку над усімі царкоўнымі рэчамі, і імі хай распараджаецца, як Богу належнае.

ЗАЎВАГА. Гэтае правіла ўстанаўляе важны прынцып, што ўся царкоўная маемасьць у епархіі знаходзіцца пад кіраўніцтвам Епіскапа, што пацьверджаецца й шматлікімі іншымі правіламі, а дзеля гэтага вырашаючае слова ў справе маемасьці належыць Епіскапу, а не народу.

Прав.41. Даручаецца Епіскапу мець уладу над Царкоўнай маемасьцю.

Са СТАТУТУ БАПЦ прачытайце параграфы: 12, 50, 71, 74 і 98.

Выбрана з: "КНИГА ПРАВИЛ ЧАСТЬ І, Правила Св. Апостол и Вселенскіх Соборов. Издание в Монтреале, Канада, 1971.

## ПАРАГРАФЫ СА СТАТУТУ БАПЦ

Пар.12. Ніводзін з Епіскапаў ня рорбіць нічога агульна-царкоўнага без паразуменьня й згоды з іншымі Епіскапамі БАПЦ, ані ня мае кіраўнічага права ў Епархіі іншага Епіскапа — толькі на просьбу апошняга можа яму памагчы.

Пар.42. Кажная пастанова Сабору БАПЦ мае быць пацьверджаная бальшыной прысутных Епіскапаў. Епіскапы могуць незацьвердзіць пастановы, які яна супярэчная з царкоўнымі канонамі.

Пар.50. Духоўная асоба пазбаўленая сану, або пад якой колечы забаронай свайго Архірэя, аўтаматычна выключаецца з Рады. У выпадку выбыцьця з Рады сябры, ці нябыцьця без

уважлівых прычынаў на апседжаньні Рады БАПЦ праз два гады — Першы Герарх вызначае новага сябру на звольненае месца.

Пар.71. Калі-б кіраўнік Парафіі або сябры Парафіяльнае Рады, ці Парафіяльнае Рэвізыйнае Камісіі, па абраньні іх на пасады, не прызналі над сабой улады кіраўнічага Епіскапа, у юрысдыкцыі якога гэтая Парафія знаходзіцца, яны аўтаматычна пазбаўляюцца пасады, на якую яны былі пастаўленыя, або абраныя.

Пар.74. Старшыня ў паразуменьні й згодзе зь Ерэям-Кіраўніком кіруе ўсею дзейнасьцю Парафіяльнае Рады.

Пар.98. Уся рухомая й нерухомая маемасьць ёсьць бяспрэчная ўласнасьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Пар.37. Дэлегаты на Сабор БАПЦ: а) усе сьвятары БАПЦ, апрача забароненых уладамі БАПЦ; б) два дэлегаты ад манастыра й кажнае парафіі; в) усе сябры Рады БАПЦ; г) рэдактар афіцыйнага выдавецтва пры Кансысторыі; д) дырэктары школаў пры епархіях.

*— Протапрасьвіцер а. Васіль Кендыш*





ВЯЛІКДЗЕНЬ — 1987

# ЗЬМЕСТ